ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 111(5293)
Чацвер, 27 верасня 2001 года

Кошт у розніцу — 80 руб.

Падзеі

## Сустрэча ў кабінеце міністра

***Напэўна кожны вучань (я ўжо не кажу пра настаўніка) не раз марыў: вось бы сустрэцца з міністрам, пагутарыць з ім і абавязкова паскардзіцца: маўляў, настаўнікі зусім замучылі. Праходу не даюць: хатняе заданне выканай, на факультатыў схадзі. А тут яшчэ і рэформа з яе дванаццацігадовым тэрмінам навучання ў школе. Проста жах!***

Як гэта ні дзіўна, але мары іншы раз здзяйсняюцца. Адзінаццацікласнікам гімназіі № 12 Мінска вельмі пашчасціла: 21 верасня яны не толькі мелі магчымасць убачыць міністра адукацыі нашай краіны В.І.Стражава, але і задаць яму пытанні. Канешне, у першую чаргу іх цікавіла, у якой школе "мучыўся" міністр, на што Васіль Іванавіч адказаў: "Пачаў вучыцца ў школе Крупак (на Міншчыне), а скончыў у адной з мінскіх школ". А потым дадаў: "Першага верасня сёлета споўнілася 50 гадоў, як я пайшоў у школу". Сваю адукацыю В.І.Стражаў працягнуў у Беларускім дзяржаўным універсітэце на фізічным факультэце. Паступіўшы на фізічны, уразіў усіх, бо ў школе захапляўся літаратурай, добра пісаў сачыненні. А тут — фізіка. Дзіўна, але факт. "Дваццаць гадоў я пражыў з думкай, што адзінае, чым варта займацца ў жыцці, дык гэта — навука, — працягваў гаворку Васіль Іванавіч. — А пазней зразумеў: ёсць яшчэ шмат рэчаў, таксама вартых увагі". Напрыклад, футбол. У свой час наш міністр адукацыі марыў стаць футбалістам, аб чым шчыра паведаміў сваім гасцям. Да таго ж гэта была не проста мара, а і некалькі гадоў трэніровак, яго нават бралі ў Мінскае "Дынама", але: "Толькі той становіцца прафесійным футбалістам, хто шмат працуе, а я зламаўся. Дзве цяжкія траўмы — і паставіў крыж на прафесійным занятку спортам", — да свайго аповеду дадаў В.І.Стражаў. Але як гаворыцца: усё што ні здараецца, тое да лепшага.

Стаць міністрам - справа не простая. Вось адзінаццацікласнікаў і зацікавіла, як становяцца міністрамі. Па-першае, для таго, каб стаць не толькі міністрам, трэба атрымаць, як мінімум, сярэднюю адукацыю. А без школы ў гэтым выпадку як гаворыцца, — ні туды і не сюды. (Робім высновы, паважаныя хлопчыкі і дзяўчынкі.) Потым — працаваць, працаваць і працаваць.

Свой пост Васіль Іванавіч заняў у 1994 годзе. Часу прайшло дастаткова, каб рабіць нейкія высновы. Калі ў міністра запыталі, якая найбольш значная падзея адбылася за перыяд яго працы, то ён адказаў: "Выданае Прэзідэнтам рашэнне ў снежні 1996 года аб падрыхтоўцы рэформы агульнаадукацыйнай школы. Менавіта з гэтага стартавала школьная рэформа." Сапраўды, значная, а галоўнае, вельмі важная падзея ў нашай адукацыі. Перамена — заўсёды развіццё, а калі мы развіваемся — значыць смела крочым у будучае.

На развітанне гімназісты папрасілі расказаць пра адзін дзень міністра, на што ён адказаў: "Раскажу вам смешны выпадак, які адбыўся ў маім кабінеце. У мінулым годзе атрымалася так, што за сталом сядзеў мой унук. У мяне ён правёў дзве гадзіны, а ўвечары бабулі паведаміў наступнае: "Добрая праца ў дзеда. Дзве гадзіны ён размаўляў і падпісваў паперы". Так, гэта частка маёй працы: слухаць, адказваць на пытанні, падпісваць дакументы. Зараз мы займаемся падрыхтоўкай да II з"езда настаўнікаў".

Сустрэча хутка скончылася. Былі атрыманы адказы, але, безумоўна, засталіся і пытанні. Вельмі прыемна, што міністр адукацыі знаходзіць час не толькі на вырашэнне праблем, а і на простыя сустрэчы з вучнямі, на карысць якіх, у прынцыпе, ён і працуе.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКУ: міністр адукацыі В.І.Стражаў з адзінаццацікласнікамі гімназіі № 12 Мінска Вольгай Апанасік і Аксанай Сельвясюк.

**Фота Ю.БОНДАРАВА.**

Дзяржаўнае пытанне

## Колькі грошай трэба на адукацыю?

***Праект бюджэту Рэспублікі Беларусь на 2002 год абмяркоўваўся на мінулым тыдні на чарговым рабочым пасяджэнні дэпутацкай пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікаў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе. Якая частка бюджэту на чарговы фінансавы год патрэбна сёння для таго, каб нацыянальная сістэма адукацыі не толькі функцыянавала, але і якасна развівалася? Колькі гэта грошай? Якія прыярытэтныя напрамкі дэпутаты павінны ўзяць пад свой кантроль?***

У рабоце камісіі прыняў удзел намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мікалаевіч Канаплёў. Міністэрства адукацыі прадстаўлялі на пасяджэнні намеснік міністра адукацыі Аляксандр Купцоў і начальнік планава-фінансавага ўпраўлення міністэрства адукацыі Лідзія Іванаўна Субоцкая.

Дэпутаты не задаволены варыянтам праекта бюджэту. "Нас непакоіць негатыўная тэндэнцыя — пастаяннае за апошнія гады недафінансаванне сферы адукацыі, — падкрэсліў у сваім выступленні старшыня камісіі Ігар Васільевіч Катляроў. — У законе "Аб адукацыі" ў другім чытанні, які будзе зацверджаны ў бліжэйшы час, мы плануем смелыя лічбы і перспектывы. Аднак у праекце бюджэту на 2002 год многія з іх на справе аказваюцца недасягальнымі, нерэальнымі".

Фінансавых сродкаў катастрафічна не хапае на асноўнае: адзін з важнейшых патэнцыялаў краіны — навуковы. Без навукі рух наперад — немагчымы. І ў той жа час сёння, гаварыў прамоўца, у праекце бюджэту краіны на 2002 год мы маем лічбы, амаль у чатыры разы заніжаныя, у параўнанні з тымі, якія планаваліся і рэальна патрабуюцца на развіццё навукі.

Праблема праблем — будаўніцтва і капітальны рамонт навучальных устаноў краіны, закупка новага абсталявання. Хаця добра зразумела: калі сёння не ўкласці рубель у рамонт адной канкрэтнай навучальнай установы, дык заўтра, ці яшчэ пазней, на гэтую справу давядзецца ўкладваць сродкаў у дзесяць разоў болей.

"Некаторыя лічбы мне сёння проста сорамна называць! — у намесніка міністра адукацыі А.І.Купцова настрой быў мінорны. — Часам, мне здаецца, што мы гуляем у хованкі, а лічбы аднекуль бярэм упоцемках". З яго вуснаў гучала крытыка ў адрас міністэрстваў фінансаў і эканомікі.

А.І.Купцоў нагадаў прысутным, што на сённяшні дзень у краіне ў стадыі будаўніцтва знаходзіцца 157 школ. Прычым будаўніцтва дваццаці шасці аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці пачалося яшчэ да 1991 года. Можна яскрава ўявіць сабе як выглядае будоўля, якая зацягнулася на дзесяць гадоў. Не толькі цэгла не вытрымае гэты час, але і жалезабетон.

"У наступным годзе, — гаварыў А.І.Купцоў, — па праграме Прэзідэнта і Урада краіны, прадугледжана будаўніцтва яшчэ 49 аб'ектаў (акрамя названых 26). З іх трынаццаць — фізкультурнааздараўленчых. На гэтыя аб'екты мы павінны атрымаць ад дзяржавы болей як 20 млрд. рублёў. Наўрад ці з гэтай сумай мы зможам уратаваць даўно пачатае будаўніцтва!"

Існуе праблема фінансавання падручнікаў, (па выданні падручнікаў ёсць даўгі) дзяржаўных адукацыйных праграм. Іх трынаццаць. "Але мы ведаем, — гаварыла Л.І.Субоцкая, — што ў міністэрствах фінансаў і эканомікі ўжо ідзе размова аб скарачэнні іх фінансавання, акрамя дзвюх: "Інфарматызацыя" і "Дзеці Беларусі".

Як сведчыць практыка, сёння пастаянна ўзнікаюць пытанні па грашовых нормах расходаў на харчаванне ў навучальных установах краіны, пачынаючы ад дзіцячых садкоў і заканчваючы ВНУ. Былі ідэі пра новую тэхналогію харчавання.

Занепакоены дэпутаты і лёсам сельскай школы.

Дэпутаты выпрацавалі рашэнне, якое будзе накіравана ў Савет Міністраў краіны. У ім гаворыцца: **"На жаль, расходная частка бюджэту на адукацыю штогод плануецца адвольна, не грунтуючыся на разліковых заяўках у патрэбнасці гэтых расходаў ад адпаведных міністэрстваў і ведамстваў. Удзельная вага расходаў на адукацыю (без капітальных укладанняў) у адносінах да валавога ўнутранага прадукту (ВУП) на працягу апошніх гадоў не толькі павялічваецца, але нават рэзка скарачаецца (калі ў 1997 годзе гэтыя суадносіны складалі 6,6 працэнта, дык у 1999 годзе — ужо 6,4 працэнта, а ў 2000 годзе — 6,2 працэнта, а на 2001 г. (план) — усяго 5,57 працэнта да ВУП).**

**Крайне недастаткова выдзяляецца сродкаў з дзяржбюджэту на развіццё навукі і ўсяго навукова-тэхнічнага патэнцыялу.**

**Дэпутаты — члены Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе пры дапрацоўцы на ўзроўні Урада праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2002 год" просяць улічыць наступныя прапановы і заўвагі:**

**Кардынальна змяніць падыходы ў планаванні расходнай часткі бюджэту краіны, пастаянна павялічваючы расходы на адукацыю, культуру і навуку, базуючыся пры гэтым на патрабаваннях Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзеючага заканадаўства краіны аб адукацыі, культуры і навуцы, а таксама праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2005 года, зацверджанай Другім Усебеларускім сходам, указаннямі і даручэннямі кіраўніка дзяржавы аб прыярытэтнасці гэтых галін.**

**З гэтай мэтай прадугледзець у раздзелах праекта бюджэту на 2002 год наступныя параметры расходаў фінансавання:**

**Раздзел "Адукацыя"**

**Агульныя расходы на гэтую галіну давесці на чарговы фінансавы год у памеры не меней 7 працэнтаў да валавога ўнутранага прадукту ці ў абсалютных лічбах кансалідаванага бюджэту не меней 1 трыльёна 560 мільярдаў рублёў. Пры планаванні артыкулаў расходаў у праекце бюджэту на адукацыю накіраваць:**

**33 млрд.руб. — на выданне падручнікаў і навуковых дапаможнікаў (з мэтай навучання), а таксама забяспечыць фінансаванне ў поўным аб'ёме 13 зацверджаных Праграм у галіне адукацыі".**

**Святлана БЕНЬ.**

## Пашырэнне магчымасцей

***У Кастрычніцкім раёне сталіцы адбылася значная падзея. Першага верасня ў 56-й сярэдняй школе пачалося новае жыццё: з дваццатага чэрвеня 2001 года ёй нададзены статус гімназіі. Адметным з'яўляецца і той факт, што гэта — першая гімназія ў раёне.***

У Кастрычніцкім раёне — 16 агульнаадукацыйных школ, з якіх 12 — з паглыбленым вывучэннем асобных прадметаў (у прыватнасці школа № 56 з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы). Паводле слоў Тамары Антонаўны Дуткінай, намесніка начальніка аддзела адукацыі па вучэбна-выхаваўчай рабоце, быў шэраг прэтэндэнтаў сярод агульнаадукацыйных школ на атрыманне статуса гімназіі. Усе яны дасягнулі адпаведных вынікаў: высокі працэнт паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, паспяховы ўдзел у гарадскіх і рэспубліканскіх алімпіядах, наяўнасць эксперыментальных пляцовак, праца педагагічных калектываў па новых тэхналогіях. Але выбар прыпаў на 56-ю школу. "На маю думку, гэтая школа — самая стабільная ў кадравым складзе і мае высокі паказчык якасці адукацыі", — адказала на маё пытанне "чаму?" Т.А.Дуткіна. У прынцыпе, у кожнай сярэдняй школе павінен быць педагагічны калектыў, дзейнасць якога была б скіравана ў бок якасці, а не колькасці. У гімназіі № 56 працуе 107 настаўнікаў, 65 з якіх маюць вышэйшую і першую катэгорыю. Цяпер установа павінна на працягу пяці гадоў адстойваць права называцца гімназіяй, а потым, прайшоўшы атэстацыю, замацаваць гэты статус за сабой на працяглы час.

На сённяшні дзень гімназія дае магчымасць атрымаць класічную адукацыю. Да паглыбленага вывучэння замежнай мовы дадаюцца трывалыя веды па матэматыцы, фізіцы і філалогіі. У сувязі з набыццём школы новага статуса былі набраны чатыры гімназічныя класы, адзін з якіх у пачатковай школе займаўся па паскоранай праграме (у рамках школьнай рэформы вучні за тры гады засвоілі праграму пачатковай школы). Згодна з прыкладным палажэннем аб гімназіі, набор у пятыя класы праводзіўся на конкурснай аснове, дзеці выконвалі пісьмовыя работы па беларускай і рускай мовах, матэматыцы. Конкурс склаў прыкладна 2,5 чалавекі на месца. Каб задаволіць патрэбы большай колькасці жадаючых, у класы набралі дзесьці па трыццаць чалавек. Асноўная частка прыйшла з пачатковай школы пры гімназіі. Былі дзеці і з іншых школ раёна, нават усяго горада. Зразумела, што ўсе хочуць атрымаць трывалыя веды, а магчымасці ёсць пакуль што не ва ўсіх. Гімназія ў Кастрычніцкім раёне Мінска — першая ластаўка і, напэўна, не апошняя. "Калі гаварыць пра тое, чаму ў нашым раёне толькі адна гімназія, то трэба сказаць наступнае: мы доўга да гэтага ішлі і, увогуле, шыльда — не галоўнае. Акрамя добрага педагагічнага складу, школа павінна мець яшчэ і адпаведную матэрыяльную базу. Школа № 56 мае тры сучасныя камп'ютэрныя класы, два лінгафонныя, 39 абсталяваных вучэбных кабінетаў," — у працяг гаворкі сказала Тамара Антонаўна.

Акрамя створаных у новым навучальным годзе гімназічных класаў, даволі працяглы час функцыянуюць (пачынаючы з восьмага) профільныя класы: матэматычныя, фізіка-матэматычныя, філалагічныя. У іх вучні таксама паступаюць: здаюць унутраныя экзамены. Дзесятыя-адзінаццатыя класы — ліцэйскія, з паглыбленым вывучэннем хіміі, біялогіі, фізікі, матэматыкі і філалогіі. Гімназія мае адпаведную базу для фарміравання ўсебакова развітай асобы, якая будзе здольна рэалізаваць свой творчы патэнцыял у дынамічных сацыяльна-эканамічных умовах.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Гімназічны рух

## Школа з англійскім ухілам і музычным акцэнтам

***Першага верасня сёлетняга навучальнага года тры сталічныя школы сталі гімназіямі. Сярод іх — 25-я школа з англійскім ухілам. Школа гэтая заўсёды была адной з лепшых у горадзе, і добра ведаю, што ўсе здольныя дзеці з Заводскага раёна заўсёды імкнуліся трапіць менавіта сюды.***

У школе любяць журналістаў, і калі мы сустрэліся з дырэктарам Валянцінай Віктараўнай Абрамовіч, яна паказала мне цэлы стос газетных публікацый і фотаздымкаў. Гэта добры сімптом — ёсць што паказаць незнаёмаму чалавеку, аб чым расказаць. Усё добрае — як на далоні.

А ўвогуле — заўсёды радуюся, калі статус гімназіі надаюць не новабудоўлі, а школе з традыцыямі, якая выпусціла ў свет не адно пакаленне сваіх гадаванцаў. І тыя таксама не забываюць школу, наведваюцца сюды і ў будні, і ў святы. У многім гэта заслуга былога дырэктара Кацярыны Аляксандраўны Карнышавай, якая працавала на гэтай пасадзе больш за дваццаць гадоў. І зараз выкладае матэматыку, ва ўсім дапамагаючы Валянціне Віктараўне. 70 з паловай працэнтаў настаўнікаў маюць вышэйшую і першую катэгорыю. Увогуле, 25-я школа — гэта той шчаслівы выпадак, калі вучні і настаўнікі знайшлі адзін аднаго. Прычым Валянціна Віктараўна — у прыязных адносінах са сваімі калегамі з суседніх школ, і бывае так, што многія дзеці прыходзяць у элітную школу па парадзе сваіх настаўнікаў. Хаця школа перапоўнена — у ёй вучыцца больш 1100 дзяцей замест 640. Падрыхтоўчыя і першыя класы займаюцца ў дзіцячых садках. А тыя дзеці, якія пераязджаюць на новае месца жыхарства, усё роўна працягваюць ездзіць у сваю школу. Нават з Малінаўкі. Уявіце — праз увесь горад. А быў хлопчык (зараз ён студэнт), якога бацька вазіў на машыне за 25 кіламетраў. Урэшце, важнасць добрай адукацыі зразумелі ўсе.

***

У новаспечанай гімназіі — цудоўныя дзеці. Цудоўныя ў сэнсе сваёй адкрытасці, шчырасці, своеасаблівых поглядаў на жыццё. Ужо дзесяты год працуе ў школе школьнае Брацтва. Менавіта працуе — статут яго распрацоўваў прафесійны юрыст, бацька адной з вучаніц. На чале Брацтва — прэзідэнт, вучань 11 класа Яўген Бальшакоў. Віцэ-прэзідэнт — Віктар Абалонкін. Ёсць у школе міністр юстыцыі, міністр шэфскіх сувязяў, міністр спорту, міністр культуры, міністр фінансаў, міністр бяспекі, міністр сувязі, міністр унутраных спраў і інш.

Некалькі гадзін я гутарыла з міністрамі, і кожны падрабязна расказваў пра свае справы. У міністэрскім апараце няма дыскрымінацыі па палавой прыкмеце — міністр культуры Алеся Майсеенка і міністр шэфскіх сувязяў Галіна Корсак проста-такі здзівілі карэспандэнта сваёй эрудыцыяй у абаяльнасцю.

А віцэ-прэзідэнт Віктар Абалонкін — па сумяшчальніцтве яшчэ і старшыня школьнага клуба "ЮНЕСКА". Ён расказаў пра сваё дзяцінства шмат цікавага. Але найбольш мяне ўразіла такая гісторыя. Напярэдадні Дня чарнобыльскай катастрофы вучні рабілі жураўлікаў — у памяць аб японскай дзяўчынцы, якая захварэла пасля бамбёжкі ў Хірасіме. Вялікія гірлянды з жураўлікаў 26 красавіка былі ўскладзены да двух помнікаў — у парку Дружбы і каля Чырвонага касцёла. У школе няма дзяцей-перасяленцаў, і тым не менш тут памятаюць пра трагічную для Беларусі дату. А ўвогуле — у клубе "ЮНЕСКА" дзеці вучацца мастацтву весці палеміку, уменню кіраваць дзяржавай, нават азам журналістыкі.

Клуб "БІОМ" мае экалагічны кірунак. І што галоўнае — яго члены не займаюцца экалогіяй дзеля спартыўнага інтарэсу. Яны, напрыклад, прыводзяць у парадак бліжні парк, прыбіраюць смецце, вядуць назіранні за біялагічнымі аб'ектамі. У бліжэйшы час збіраюцца прыняць удзел у міжнародным экалагічным праекце "Жыццё ліста". Калі ў бяду трапілі лебедзі на Чыжоўскім вадасховішчы, усёй школай збіралі грошы, каб іх падкарміць. А колькі ў школьных кабінетах зеляніны, пакаёвых кветак! Сапраўдны аазіс.

***

Пра этнаграфічны музей, створаны настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Алінай Казіміраўнай Пахвалёнай, пісалі многія газеты. Калі на экскурсію сюды прыходзяць замежныя госці — а школа падтрымлівае сяброўскія сувязі з Англіяй і Амерыкай — некаторыя нават плачуць ад замілавання. 440 экспанатаў, кожны з якіх калісьці меў свайго гаспадара, уяўляюць сабой сапраўдную гістарычную каштоўнасць. Сімашук Кацярына з 9 "В" на чысцюткай беларускай мове распавяла мне пра некаторыя дзіўныя экспанаты, якія і не даводзілася бачыць раней. У музеі падумала вось аб чым — работа па адраджэнні роднай мовы і культуры не стала тут кампаніяй, яна тут ідзе штодзень, і можа, выпускнікі школы і не стануць вялікімі літаратуразнаўцамі і этнографамі, але памяць пра экспанаты ў іх школьным музеі захаваюць на ўсё жыццё.

***

У гімназіі амаль не існуе праблемы пераемнасці "пачатковае навучанне — сярэднія класы — выпускнікі". У школьнае жыццё ўцягваюцца ўсе — і малыя, і старэйшыя. Тут бывае шмат гасцей, святаў, нават школьныя ўрокі ператвараюцца ў сапраўдную дзею. Як сказала Алеся Майсеенка: "Наша школа — з музычным ухілам і англійскім акцэнтам". Можа, таму тут ужо даўно не было правапарушэнняў, ды і звычайных канфліктаў. Дзеці добра вучацца, многія выпускнікі наведваюць розныя курсы, шмат працуюць самастойна.

З гэтага года гімназія будзе працаваць па тэхналогіі модульнага навучання маскоўскага прафесара Пятра Траццякова. Гэта — тэхналогія, накіраваная на лепшую засваяльнасць ведаў і разам з тым — паляпшэнне здароўя вучняў. Калі Пётр Іванавіч зайшоў у школу, яна яму адразу спадабалася сваёй добрай аўрай. І ён даў "дабро" на эксперымент.

***

А ўвогуле, мне не хацелася пісаць пра 25-ю школу як пра нейкую паказальную ўстанову. Паверце, гэта не "пацёмкінская вёска". Тут здараюцца свае маленькія трагедыі. Хварэюць дзеці. Бывае так, што на вачах у настаўнікаў абсалютна здаровая дзяўчынка становіцца "надомніцай". Хварэюць настаўнікі. Часам — цяжка. Гэта — жыццё з усімі рэаліямі.

Сёлета некалькі выдатных настаўніц паехалі разам з сем'ямі на працу на мяжу. Трэба шукаць дастойную замену — менавіта дастойную, бо школа мае даволі высокі статус. Ёсць класы, якія займаюцца ў другую змену. І не заўсёды задаволены бацькі.

Што датычыцца матэрыяльна-тэхнічнай базы, дык даводзіцца спадзявацца на дапамогу спонсараў, бацькоў. Хаця сёлета дапамаглі і шэфы — Мінскі рэсорны завод (дырэктар Леанід Міхайлавіч Беразнёў). Трэба падтрымліваць належны парадак і на прышкольнай тэрыторыі.

***

Валянціна Віктараўна Абрамовіч — бадай, адзіны дырэктар у сталіцы, які жыве побач са школай. І чамусьці ўяўляю сабе, як гэтая вельмі сімпатычная жанчына кожную раніцу, прачнуўшыся, глядзіць у акно на сваё дзяцішча. І думае: а што б яшчэ такое цікавае прапанаваць сваім калегам, што новае сказаць сваім дзецям? А потым... потым усе гэтыя думкі становяцца явай.

У школу спяшаюцца дзеці. Шапаціць пад нагамі восеньскае лісце. І так будзе заўсёды. Кастрычнік, школа, дзеці...

**Ала ШАЎЦОВА.**

